УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-44
С41

*Серыя заснавана ў 2014 годзе*

Мастак
*Ангеліна Вашчанка,*
*вучаніца Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў*

*Для дзяцей малодшага школьнага ўзросту*

**Сітуха, У. М.**
С41 Пра арэхі, сома і бабра : казкі : для дзяцей мал. шк. узросту / Уладзімір Сітуха ; маст. Ангеліна Вашчанка. — Мінск : Выдавецкі дом «Звязда», 2014. — 16 с. : іл. — (Вясёлы калейдаскоп).
ISBN 978-985-7083-35-0.

Цікавыя казкі можа расказаць родная прырода, трэба толькі ўважліва назіраць за тым, што ў ёй адбываецца. Так, як пісьменнік Уладзімір Сітуха. А ў гэтай кніжцы якраз і сабраны такія казкі — пра дабрачыннага бабра, які не даў загінуць маленькім сарачанятам, пра вавёрку, якая любіць ласавацца зярняткамі з яловых шышак, а таксама пра мудрага сома, што выратаваў жыццё гарэзам-ментузам.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-7083-35-0**

*Унучку Уладзіку Цюшкевічу прысвячаецца*



## Каму арэхі?

З надыходам зімы ў гушчары на невялічкай паляне пасяліліся Дзед Мароз, Вецер і Завея. Ніхто так дружна вакол не жыў, як гэтыя суседзі. Яны баранілі адзін другога, прыходзілі на выручку і амаль заўсёды з ахвотай працавалі разам, хаця і выконвалі розную работу.

Пад Новы год у іх прыбаўлялася клопатаў. Асабліва ў Дзеда Мароза. Бо апроч асноўнай работы — трымаць скаванымі льдом рачулкі, азёры ды іншыя вадаёмы, ён павінен быў абысці ўсіх лясных жыхароў — павіншаваць з Новым годам і ўручыць падарункі.

Падарункі загадзя былі падрыхтаваны і дбайна складзены ў мяшок. Але як адшукаць хатку кожнага

ляснога жыхара, каго-небудзь не абмінуць, не пакінуць без святочнага пачастунку? Вось гэтае пытанне па меры прыбліжэння свята ўсё мацней турбавала Дзеда Мароза.

Вецер і Завея, вядома ж, прыкмецілі занепакоенасць старога.

— Чым так заклапочаны, дзядуля? — запыталася, падабраўшы зручны момант, Завея, калі яны ўтрох прыселі адпачыць.

І Дзед Мароз паведаміў пра свае трывогі сябрам-суседзям. Задумаліся тыя. Першай ажывілася Завея:

— Толькі і клопату, дзядуля! Мы табе дапаможам.

— Як ты гэта мяркуеш зрабіць, суседка? — у сваю чаргу пацікавіўся Мароз.

— Вельмі проста, — узмахнула яна сваімі белымі крыламі. — Мы з Ветрам перад надыходам свята прабяжымся па лесе, прыбяром усюды і рассцелем белы кілім. Хто ні ступіць потым — след пакіне. А па слядах ты лёгка кожную хатку знойдзеш.

— Малайчына! Такую палёгку мне дала, — адобрыў прапанову Дзед Мароз.

Як толькі крыху звечарэла, а стары год пачаў адлічваць апошнія гадзіны, узяліся Завея з Ветрам за работу. Вецер скуголіў, свістаў і выў, наносячы гурбіны, а Завея, як лань, не шкадуючы сябе, насілася між дрэў і хмызняку.

Раніцай лес было не пазнаць. Такая ўрачыстая прыгажосць! Бярозы апранулі новыя касынкі, дубы вышэй узнялі свае галовы, але асабліва прыгожа выглядалі ў абновах елкі. А на ўсю зямлю, абводзячы дрэвы, лёг белы-белы кілім.

Выйшаўшы раніцай на падворак са свайго палаца, Дзед Мароз ажно рукі пацёр ад задавальнення.

— Малайцы! Слаўна папрацавалі... Цяпер кожны след — як на далоні, — пахваліў ён Ветра і Завею.

Неўзабаве задаволены, з мяшком за плячыма рушыў у дарогу. З птушкамі, якія зімавалі ў лесе, было проста: яны жылі гуртамі, карміліся разам, і Дзед Мароз паклаў іхнія гасцінцы ў кармушкі — самі падзеляць. А вось сярод звяроў такога парадку не было. Кожны жыў паасобку, меў свой нораў, ужываў розную ежу і — што галоўнае — сяліліся яны ў розных месцах і дружбы між сабою не вадзілі. Таму трэба было пабываць у кожнага. Першага па слядах Дзед Мароз адшукаў даўгавухага зайку-беляка, які туліўся на ўскрайку лесу пад ламаччам. Пачаставаў яго морквай ды пашыбаваў далей і ў хуткім часе натрапіў на след рыжай лісіцы-хітрыцы, які вывеў яго на пагорак з мноствам хадоў ды нор. Тут ён пакінуў мяшочак з сырам. А затым панёс падарунак для яе суседа — шэрага ваўка.

Многа жыло розных звяроў у лесе. І кожнага, патрэскваючы, па слядах без цяжкасцей праведаў Дзед Мароз: сардэчна віншаваў са святам, уручаў кожнаму падарунак і спяшаўся далей. Мяшок пусцеў на вачах, і неўзабаве на дне засталіся толькі арэхі.

«Каму ж яны?» — думаў Дзед Мароз, шукаючы патрэбны след. Але колькі ні блукаў па лесе — новых слядоў не траплялася: ні ў дубровах, ні ў гушчарах, ні на палянах.

Стомлены дадыбаў ён да высокай разгалістай хвоі.

— Дзіва нейкае дый годзе, — усклікнуў, убачыўшы пад дрэвам церуху ад шышак. А следу ніякага няма. «Нешта тут не так, — падумаў Дзед Мароз. — Не магла Завея абмінуць гэтае месца. Ды і снег наўкола свежанькі, як пухавіна».

І такая дзядулю ўзяла цікаўнасць, што вырашыў ён паназіраць, адкуль тут што бярэцца, а заадно прысесці і даць адпачынак стомленым нагам.

Толькі прымасціўся пад хвояй — на галаву бразнулася шышка. Глянуў уверх — нікога не відаць. Адно дупло чарнее. «Мабыць, вецер сваволіць», — падумаў Дзед Мароз і зноў прытуліўся да дрэва. Толькі прыплюшчыў вочы, як нехта сыпнуў у твар церухі. Глянуў — нікога. Адпачываць Дзеду Марозу перахацелася. Ускінуўшы на плячо мяшок з арэхамі, ён скіраваў у бок свайго жытла.

Суседка Завея, добра папрацаваўшы ноччу, бавіла час на прызбе. За дзень яна набралася свежых сіл і, узмахваючы рукамі-крыламі, адорвала зямлю пухам, які Вецер тут жа падхопліваў і разносіў па ўсім лесе.

Прыкмеціўшы стомленага заклапочанага суседа, Завея памкнулася насустрач:

— Ну што, дзядуля, раздаў гасцінцы?

— Не ўсе. Арэхі во назад прывалок.

І Дзед Мароз расказаў пра свае вандроўкі:

— Усіх насельнікаў лесу па слядах адшукаў я. Кожнага павіншаваў з Новым годам, толькі арэхі ў мяшку засталіся. Відаць, памылкова паклалі.

— Па-кла-лі пра-віль-на-а... — пранізліва залапатаў Вецер.

— Во, чуеш, Вецер гамоніць, што ўсё правільна, — уздыхнуў Дзед Мароз. — Разбярыся тут…

Спакваля Завея пачала больш падрабязна распытваць Дзеда Мароза пра вандраванне па лесе: каго бачыў, што чуў. І калі ён расказаў пра хвою, пад якой была церуха ад шышак, усміхнулася:

— Эх, дзядуля! Гэта ж і быў след. Не ўсе нашы лясныя жыхары селяцца на зямлі ці ў ёй.

— А-а-а, — узрадаваўся Дзед Мароз. — Цяпер разумею…

Ён падхапіў мяшок і подбегам скіраваў да той хвоі.

Каму ж ён панёс арэхі?



## Сом-выратавальнік

Гісторыя гэта адбылася на прадвесні, калі рэчка Лясная, скінуўшы паводкавы хмель, увайшла ў свае берагі і не віравала ўжо так грозна, як некалькі дзён таму, што глянуць страшна было. Але яшчэ і зараз сваю назву — Лясная — яна апраўдвала тым, што раз за разам несла некуды далей старыя карчы-вываратні, відаць, падмытыя талай вадою, леташнюю лістоту, аголеныя бабрамі камялі дрэў. Ляснoй рэчка звалася спрадвеку, хутчэй за ўсё таму, што выток кволай ручаінай брала з крыніцы ў Белавежскай пушчы.

Тут, у Цюхінічах, кіламетраў за трыццаць ад яе вусця, людзі прыдавалі шмат значэння гэтай акалічнасці: вада ў Лясной заўсёды чыстая — піць можна. Але найбольш радавала тое, што ў Лясной вадзілася шмат разнастайнай рыбы. Спрадвеку рэчка карміла тутэйшы люд, бадзёрыла, абуджала ў стомленым целе свежую сілу, была крыніцай радасці і шчасця для дзятвы.

Утульна адчувалі сябе ў Лясной і яе насельнікі, асабліва розных відаў рыба, хаця драмаць ёй тут не выпадала: можна стаць лёгкай спажывай для шматлікіх рыбакоў ці яшчэ горш — сваіх драпежных сабратаў або птушак.

Палявалі тут, карміліся і ў вадзе, і з берагоў амаль усе. Не выключэннем быў і малады спрытны шчупак, які ўжо добрую гадзіну цікаваў за гарэзамі-ментузамі, што сваволілі на водмелі, дзе прагрэлася вясновым сонейкам вада. Ментузы то тыкаліся носам у нос, то ганяліся адзін за другім, успеньваючы ваду, іншы раз ледзь не выскокваючы з водмелі на пясочак. Яны радаваліся вясне, жыццю, самім сабе і не зналі, што водмель была іх выратаваннем. Хутчэй за ўсё ментузамі валодаў інстынкт самазахавання. Былі моманты, калі яны зусім блізка разварочваліся каля ашчэранай пашчы шчупака, які, выбраўшы зручнае месца сярод аеру і лотаці, толькі і чакаў, каб ментузы падплылі крыху бліжэй, і тады яму хопіць моманту, каб куляй кінуцца на іх...

Зрабіць гэта перашкаджала водмель, таму што здзейсніўшы сваю задумку зараз, шчупак разыкаваў забуксаваць у пяску і самаму стаць спажывай для буслоў ці чапляў, якія раз-пораз наведваліся сюды. Ды і дзятва не абмінала гэтае месца, таму што тут можна было атрымаць асалоду ад звону ручайкоў, утвораных на выгане і набраўшых разгон, каб пасля злучыцца з магутнай ракой. Гэта была дзіўная мелодыя. Яе не чуў і не разумеў драпежны шчупак. Але ім таксама кіраваў інстынкт самазахавання.

Яго вочы запальваліся, цела напрынчвалася, выцягваліся плаўнікі, нібыта струны, калі набліжаліся ментузы. Утварыўшы своеасаблівы зігзаг, яны кожны раз разварочваліся амаль перад самым носам шчупака, але пакуль не на патрэбнай яму адлегласці. Ён прыкмеціў,

што палоненыя сваім усеабдымным шчасцем ментузы згубілі пільнасць і кожны раз падплывалі ўсё бліжэй і бліжэй да яго, скарачаючы дыстанцыю паміж сабой і імі. Яшчэ некалькі кругоў і…

Бачыў гэта і вопытны сом, які прытаіўся пад вываратнем перад самым носам шчупака. Ён нядаўна пакінуў нару і зараз, радуючыся надыходу вясны, грэўся на мелкаводдзі, абдумваючы планы на лета.

Гульня шчаслівых ментузоў абудзіла ў ім радасць, адчаго сом задаволена варушыў вусамі, бы папярэджваючы згубіўшых пільнасць гарэз, каб не падплывалі так блізка да прытоенага драпежніка шчупака.

Але ментузам зараз было ўсё ні па чым. І вось зусім нечакана наступіў момант, калі яны ў віражы не ўтрымаліся на мелкаводдзі. Глыбіня паменшыла іх спрыт і хуткасць, што і трэба было моцнаму хітраму шчупаку. Куляй ён ірвануў з месца... Але ва ўзмутненай вадзе наткнуўся на нешта вялікае, калючае. Гэта быў сом. Перад нападзеннем шчупака ён кінуўся наперарэз. Захінуў сабою неразмуных бяспечных ментузоў.

Шчупак моцна ўкусіў сома-выратавальніка за спіну. Але і сам ён быў моцна паранены. Ад удару драпежнік страціў прытомнасць, перакуліўся некалькі разоў, а ачуняўшы, павольна накіраваўся да супрацьлеглага берага ў зараснікі вербалозу.

Ментузы некаторы час лекацелі на мелкаводдзі. Гэтак яны, відаць, дзякавалі сому-выратавальніку…

Праз некалькі дзён на водмелі з’явіліся маленькія ментузкі. Падрастаючы, яны адплывалі ўсё далей ад берага, на глыбіню, пакуль аднойчы ўсёй кампаніяй не зніклі да наступнай вясны.



## Бабёр-міратворац

Пад самую раніцу, крыпнуўшы, вярба ўздрыганулася ўсёй сваёй істотай і пачала апускацца на ваду. Павольна, ціха — здавалася, што нехта не адпускае яе, імкнецца ўтрымаць на сваім ранейшым месцы, дзе дзясяткі гадоў таму назад яна прарасла з прынесенага ветрам-вандроўнікам зярнятка.

Месца тут было зручнае — бераг ракі Лясной, густа сплецены лазняком, адкуль толькі ў засушлівае лета знікала вада. Крыху далей ад берага ўзняліся і гаманілі між сабою вольхі і нават прыгажуні бярозкі, якія моцна трымаліся за пагорак.

Усе дрэўцы цягнуліся да сонца, былі прамымі. І толькі гэтая, зараз ужо старая вярба, з самага маленства пачала выдужвацца над вадою, бы імкнулася паназіраць, што там робіцца на дне рэчкі.

Расла яна хутка. Ніхто і не прыкмеціў, як дрэва перакінула свае разгалістыя галіны на другі бераг.

З цягам часу вярба пачала служыць вясковым хлапчукам: больш зручнага месца, каб даць нырца не знойдзеш. Іншы раз на выгнуты камель прысядалі і нават прылягалі рыбакі — ім тут таксама падабалася. А на самай верхавіне звілі гняздзечкі сінічкі-сястрычкі. І корм побач, і ад ворагаў схавань, і суседзі наўкол добрыя. Страшнавата было толькі ў грымоту, калі вярба, супраціўляючыся парывам ветру, гойдалася над вадой, чапляючы веццем успененыя хвалі.

Але ніхто не думаў, што з рэчкі, якая ўвесь час паіла вярбу, даючы ёй і жыццё, і сілу, і прывабнасць, прыйдзе і яе пагібель.

На Лясную вярнуліся бабры. Некалькі гадоў яны толькі прыплывалі, каб паласавацца, разведвалі ўсё, а потым вырашылі пасяліцца назаўсёды. Адна вялікая сям'я аблюбавала месца пад вярбой, якая моцна трымалася карэннямі за бераг. На пачатку лета бабры дружна ўзяліся за справу: пачалі гарадзіць рэчку, рыхтаваць корм на зіму. З многімі дрэвамі, якія раслі тут, яны ўправіліся ў момант вока. І толькі тоўсты камель разгалістай вярбы быў ім не па зубах.

Але аднойчы раніцай і прыгажуня-вярба прылегла на ваду. Яе бабры падтачылі ў вадзе, каб ніхто не бачыў нават. Толькі самая верхавіна з гняздзечкамі засталася над вадою. Ціўкалі перапалоханыя птушаняты. Насіліся над вярбою, узнімаючы трывогу, іх бацькі. Стары бацька-бабёр, высунуўшы з вады на паверхню твар-корч, доўга назіраў за гэтым. Ён павольна падплыў да падгрызенага камяля і неак абрадавана даў нырца. Камель быў падточаны напалову. Вярба яшчэ моцна трымалася за жыццё. Вынырнуў бабёр з другога боку ад дрэва. На беразе, ля самай вады, набіраліся сілы каб завяршыць работу іншыя бабры. Адпачыўшы, яны спаўзлі ў ваду і ўзялі кірунак да вярбы. І тады цішыню

разарвала пранізлівае «Дзы-ы-ынь». Спалоханыя бабры пахаваліся. А калі, крыху асмялеўшы, вынырнулі з вады і памкнуліся да падточанага дрэва, усё паўтарылася зноў. Так стары бабёр сваім хвастом-прачом лупіў па вадзе, не даючы суродзічам давяршыць работу. «Хай падгадуюцца, стануць на крыло сінічкі», — вырашыў ён. Бачачы гэта, супакоіліся сінічкі-сястрычкі. Стала ціха ў гняздзечках.

Праз некаторы час удзячна-шчаслівы птушыны рознагалос радаваў наваколле. Сарока-белабока, якая з самага пачатку назірала за ўсім з верхавіны стромкай алешыны, затрашчала на ўвесь бераг і панесла навіну: «Добры бабёр! Мірны бабёр! Мірны бабёр!»

Амаль усё лета бабёр-міратворац вартаваў вярбу. І толькі калі птушаняты пакінулі гнёзды, ён знік пад вадою.

Глыбокай восенню дрэва павалілася, перагарадзіла рэчку, утварыўшы своеасаблівы мосцік.

А вясною, пасля крыгаходу, ад вярбы не засталося і следу. Але калі на паверхні з’яўляўся стары бабёр-міратворац, шчасліва-ўдзячны птушыны рознагалос абуджаў наваколле.

Ад кораня вярбы памкнуліся насустрач сонцу новыя парасткі. Стары бабёр радаваўся гэтаму спеву і маладым дрэўцам.

# Змест



Літаратурна-мастацкае выданне

Вясёлы калейдаскоп

**СІТУХА** Уладзімір Мікалаевіч

**ПРА АРЭХІ, СОМА І БАБРА**

*Казкі*

Рэдактар *Т. А. Кухарская* Мастацкі рэдактар *Я. К. Вашчанка*
Камп'ютарная вёрстка *Н. В. Урбановіч* Стыльрэдактар *Т. А. Кухарская*

Падпісана ў друк 04.04.2014. Фармат 70×100$^1/_{16}$. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 1,30. Ул.-выд. арк. 1,01. Тыраж 3000 экз. Заказ .

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/8 ад 02.08.2013.
Вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, 220013, г. Мінск.

ТАА «Друкарня Макарава і К».
ЛП № 02330/2 ад 23.09.2013 г.
Вул. Ф. Скарыны, 40/211, 220141, г. Мінск.